Жыве Беларусь!



# БЕЛАРУС

Address:
166-34 Gothic Drive
Jamaica, NY 11432

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.
bielarus@bazahq.org

№ 588 Студзень 2012 г.
Год выданьня 63

## Шаноўныя чытачы!

Перад вамі першы ў 2012 годзе нумар нашай газэты. У ім мы адлюстроўваем падзеі, што адбыліся ў студзені. Для праваслаўных беларусаў гэта быў час Калядных сьвятаў і таму мы працягваем калядную тэму, вы знойдзеце на старонках газэты сьвяточныя віншаваньні і інфармацыі пра тое, як прайшлі “Ялінкі” у беларускіх асяродках, а таксама літаратурную старонку на гэтую тэму.

Як заўсёды надаем значную ўвагу падзеям на нашай Бацькаўшчыне, дзе не прыпыняюцца рэпрэсіі супроць апазыцыі і вядзецца татальная вайна з усякімі праявамі нацыянальнага жыцьця беларусаў. Палітвязьні пакутуюць у турмах і прынятыя Захадам санкцыі супроць рэжыму Лукашэнкі не даюць жаданых вынікаў. Напярэдадні парляменцкіх выбараў у гэтым годзе апазыцыйныя структуры не могуць прыйсьці да згоды, як ставіцца да гэтай падзеі – байкатаваць ці ўдзельнічаць.

Ёсьць што пачытаць у газэце пра падзеі ў беларускім культурным жыцьці, пра ўнікальны спартовы посьпех беларускай тэнісісткі. Зьвяртаем таксама вашую ўвагу на каляндар памятных датаў, на 21 лютага прыпадае Міжнародны дзень роднай мовы, які можа стаць добраю нагодаю, каб нагадаць пра моўную праблему ў Беларусі.

Зьвяртайце ўвагу і чытайце таксама абвесткі, паведамленьні, звароты, аўтары якіх разьлічваюць на вашыя водгукі і у некаторых выпадках на вашую дапамогу.

Паведамляем пра зьмены ў складзе Рэдакцыі, іх вы знойдзеце на апошняй старонцы.

Нагадваем нашым чытачам, што ўжо пачаўся новы каляндарны год і прыйшоў час дасылаць ахвяраваньні на выданьне газэты ў гэтым годзе. Мы разьлічваем на вашую фінансавую падтрымку, каб нашая і вашая газэта магла і далей быць прысутнаю ў жыцьці беларускай эміграцыі не толькі ў Амэрыцы, але і ў цэлым сьвеце.

*Рэдакцыя*

## КАЛЯДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

***Ня бойцеся (Лк.2:10), з намі Бог (Мц.1:23)***



Дарагія Айцы, Браты і Сёстры! Хрыстос Нараджаецца, слаўце!

У гэты сьвяты радасны дзень чалавецтва ўжо трэцяе тысячагодзьдзе штогод цешыцца Добраю Весткаю — Хрыстос нараджаецца!

Ён нараджаецца і сёньня ў сэрцах людзей, якія ў шчырасьці прыходзяць да Яго. Госпад нараджаецца, узяўшы на сябе чалавечае цела, каб далучыць нас да Божай прыроды. Сам Бог прыйшоў у сьвет людзей, каб прынесьці Сьвятло Нябеснае ў цемру жыцьця людзкога ды вызваліць усіх з палону грахоў. Таму Нараджэньне Хрыстовае — гэта вялікае, слаўнае ды радаснае сьвята для ўсіх нас, сьвята Сусьвету.

Сапраўды падзея Нараджэньня Хрыстовага зьмяніла назаўсёды рух гісторыі. "Дзеля нас нарадзілася Дзіцятка малое — спрадвечны Бог" (кандак ютрані). "Дзеля нас Ён прыйшоў, каб узьняць сваіх сыноў, што ўпалі. Той, што жыве ў сьвятле, не зважаючы на сваю веліч, паклаўся ў ясьлі дзеля збаўленьня людзей" (ютрань, песьня 6).

Прыход Хрыста на зямлю быў абвешчаны праз прарокаў ды чаканы. Пра Нараджэньне Бога апавясьцілі людзям урачыстым сьпевам Анёлы Божыя і Зорка на небе. Разам з тым мы ведаем, якія пакуты спатыкалі Яго ўжо зь першых дзён нараджэньня. Сын Божы, Уладар Сьвету, нарадзіўся ў цёмнай пячоры ў ваколіцах гораду, бо, калі Сьвятой Маці Божай надышоў час радзіць, не знайшлося ўва ўсім Бэтлееме іншага прыпынішча. І вось у гэтай пячоры, далёка ад якіх-небудзь умоў, у атачэньні жывёлін, бяз хатняга ды сямейнага камфорту адбыўся цуд — Хрыстос нарадзіўся.

Такая рэчаіснасьць сьведчыць пра прыярытэтнасьць жыцьця духоўнага, а ўсё іншае — слава, багацьце — усё гэта часовае, менш каштоўнае у вачах Божых.

Той, прывітаць якога зьявілася з Анёлам шматлікае войска нябеснае (Лк. 2:13), ад самага нараджэньня стае "палітычным уцекачом", бо сьвяты Язэп і Марыя Маці Божая змушаны былі пакінуць бацькаўшчыну і выехаць з Бэтлеему ў Эгіпет дзеля ўратаваньня жыцьця Дзіцяці. Бо тымі днямі 14 тысячаў немаўлят-хлопчыкаў было забіта на загад Ірада ў ягонай апантанай барацьбе, каб зьберагчы царскую ўладу. Яны сталі першымі пакутнікамі, забітымі за Хрыста.

Разважаючы над гэтымі эпізодамі з гісторыі Божага Нараджэньня, можна ўбачыць падобныя матывы і ў гісторыі шматпакутнага беларускага народу. Асабліва за апошнія два стагодзьдзі: нацыянальна-вызвольная барацьба, войны XX стагодзьдзя, чырвоны камбайн сьмерці ды няволі, сёньняшні цяжкі ды надзвычайна адказны час.

Таксама сотні тысячаў сыноў і дачок беларускага народу вымушаныя ратаваць сваё жыцьцё ды годнасьць у замежжы, ратаваць сваіх дзетак ад нацыянальнай дэградацыі, што роўна зьнішчэньню народу, падобна да біблійных уцекачоў і выгнаньнікаў. Знайсьці бясьпеку, родную царкву, мову, гісторыю, годнасьць і гонар быць беларусамі, каб зноў і зноў з новымі пакаленьнямі беларусаў станавіцца ў авангард нацыянальна-вызвольнай барацьбы беларускага народу. Барацьбы за вызваленьне ад няволі граху, ад нявольніцкай псыхалёгіі, ад духу абыякавасьці ды крывадушнасьці, ад няволі...

Любыя праз Хрыста Айцы, Браты і Сёстры!

У гэты радасны калядны час узьнімем нашыя малітвы да Ўсёмагутнага Госпада за ўвесь беларускі народ, каб Ён умацаваў усіх нас Духам Сваім Сьвятым, асабліва за зьняволеных і тых, хто ў турмах пакутуе, братоў і сёстраў нашых, каб наведаў іх Госпад ды падтрымаў, за тых, хто пакутуе ды цяжка працуе, адлучаны ад сваіх родных, за хворых, за здароўе усіх, хто патрабуе нашай малітвы ды падтрымкі.

Няхай Нованароджаны Хрыстос шчодра нас усіх дабраславіць мудрасьцю, любоўю, шчасьцем, якімі былі напоўненыя душы пастушкоў ды мудрацоў, што прыйшлі ў свой час да Бога.

У гэты слаўны час ад шчырага сэрца і радаснае душы вітаю ўсіх вас, дарагія Айцы, Браты і Сёстры, зь вялікім сьвятам Нараджэньня Хрыстовага і новым 2012 годам!

Няхай Нованароджаны ў Бэтлееме Збавец наш Ісус Хрыстос дабраславіць усіх людзей добрай волі.

Хрыстос нараджаецца: слаўце Яго!

*† Сабор япіскапаў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.*

*.Катэдральны Сабор Сьвятога Кірылы Тураўскага, г. Нью-Ёрк, ЗША. Каляды 2011/2012 лета Божага.*

# Калядная ялінка ў Нью-Ёрку



8 студзеня, на другі дзень праваслаўных Калядаў, беларуская грамада ў Нью-Ёрку пасьля царкоўнай службы ладзіла традыцыйную Калядную Ялінку для дзяцей і дарослых у грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага.

Сьвяточную праграму рыхтавалі ўсе разам - прадстаўнікі Беларускай Аўтакефальнай царквы і Бруклінскага аддзелу БАЗА. Упрыгожвалі залю і ўсталявалі Ялінку Шура Лістоўская, Людміла Цярпінская, Аляксей Маркевіч, Натальля Федарэнка, Васіль Кузьменка. Тэатральную дзею пра нараджэньне Ісуса рыхтавалі мы з Андрусем і дзецьмі. Ролю Дзевы Марыі і Іосіфа цудоўна выканалі Натальля Федарэнка і яе муж Дзяніс Самуйла, а ролю анёла-вестуна – Паўлінка Падлеская.

Андрусь Падлескі падрыхтаваў сьвяточную праграму з беларускімі Каляднымі відэакліпамі і караоке вядомых калядных сьпеваў, якія дэманстраваліся на экране. Сьпявалі разам Калядкі пад мастацкім кіраўніцтвам Алы Орса Рамана. Цудоўна прасьпявала калядку на ангельскай мове Алівія Романо. Клясычныя творы на піяніна іграла Ульляна Дарагакупец.

Для дзяцей было, бадай, самае цікавае - гэта гукаць Сьв Міколу, гутарыць з ім і атрымаць падарунак - штогод дзеці гэтага вельмі чакаюць, а потым вадзіць карагоды вакол Ялінкі і сьпяваць. Як і ў мінулыя гады, сёлета ізноў вельмі добра выконваў ролю Сьвятога Мікалая Сяржук Капытка, ад якога дзеці былі ў захапленьні. Раздаваць падарункі дзецям Сяржуку дапамагаў ягоны малы сынок. Немагчыма было зразумець, ці пазнаў ён у Сьв. Мікалаю свайго бацьку,так сур'ёзна і засяроджана ён трымаўся. Але, падарункі Сьв. Мікалай раздаваў толькі тым, хто прасьпяваў песьню, ці прадэклямаваў верш. Так што пад ялінкаю атрымаўся яшчэ адзін своеасаблівы канцэрт, на якім рэй вялі самыя маленькія. Падарункі для дзетак падрыхтавала старэйшая сястра сястрынства пры Саборы Ніна Цяліца. Было відаць, што дзецям яны вельмі спадабаліся.

Відэазапісам на сьвяце займаўся Віктар Дудараў, дзякуючы яму потым можна было цалкам імпрэзу пабачыць у Інтэрнэце.

Смачны пачастунак гасьцям рыхтавалі руплівыя гаспадыні Тацьцяна Красоўская, Шура Лістоўская і Ала Орса Рамана. Усё было зроблена разам, дабраахвотна і з радасьцю,

Дарослым таксама спадабалася ўсё: і Калядкі, і дзіцячае прадстаўленьне і музыка. Было весела, зьмястоўна, цікава, шчыра, шмат музыкі, ўсьмешак і роднай мовы. Толькі пад вечар разыходзіліся ў добрым настроі і з надзеяю на добры, шчодры надышоўшы новы год і на новую сустрэчу пад Калядную Ялінкаю праз год.

*Галіна Падлеская*



# Калядныя сьвяты ў Саўт-Рывэры



У пятніцу 6-га студзеня, пасьля вячэрні ў Царкве імя сьв. Еўфрасіньні Полацкай, у залі Беларуска-Амэрыканскага Цэнтру адбылася традыцыйная Куцьця. За сталамі заселі прадстаўнікі трох пакаленьняў прыхаджан. Набралася ўсіх чалавек семдзесят. Айцец Міхаіл прачытаў малітву, блаславіў ежу. Яда, хоць і посная, але смакавала, дзякуючы сп-ні Лілі Гіляш і ейных памагатых.

У суботні Калядны дзень царква поўнілася вернікамі. Гучэлі калядныя напевы ў папоўненым хоры. Два разы на год, у дзень Хрыстовага Нараджэньня ды ў дзень Ягонага Ўваскрасеньня, прыхаджане, і наагул навакольныя праваслаўныя, наведваюць царкву ў большай колькасьці. Гэта паказвае, што праца з доглядам царквы, залі Цэнтру й навакольнага парку, якую выконвае невялікая група руплівцаў, вельмі патрэбная, і тым большая заслуга тых, хто гэту працу выконвае.

У нядзелю пасьля літургіі ў залі Цэнтру было людна й шумна: прыўзьняты сьвяточны настрой, поўна дзетвары, бацькі, дзяды, фотаапараты, падарункі й вясёлае чаканьне раздачы іх Дзедам Марозам. Пасьля смачнога абеду пачалася сьвяточная праграма: калядныя песьні, дэклямацыі вершыкаў, танцы. Праграму падрыхтавалі сп-ня Тацьцяна Дзямешчык і сп-ня Віла Леўчук. За шчодрага Дзеда Мароза быў сп. Чарлі Ўілаўэр.

(Я.З.)



# Каляды ў Іркуцку



Кожны год мы з сябрамі ў канцы сьнежня апранаем маскі, бярэм зорку, мех і адпраўляемся шляхам калядоўшчыкаў праз цемру да агеньчыка ў хаце, дзе нас чакаюць добрыя гаспадары "і не самі з сабою, а з ўсёю сямьёю". Гэтыя людзі добра працавалі ўвесь год і ў адзін з калядных вечароў, калі, звычайна, дарослыя апарнуты кірмашова, а дзеткі ў прыгожыя навагоднія строі, надыходзіць час падвесьці вынікі за мінулы год, гэта як «пасядзець на дарожку» – сесьці, паразважаць ці ўсё з плянаванага зрабілі.

Сядзіш сабе марыш, ці проста кажаш "Дзякуй!" мінуламу году. І тут думкі спыняюцца, пачуўшы: «Хадзіла, блудзіла семьсот малайцоў… Гэй Каляда! Калядзіца!». І ў галаве зноў зьяўляюцца думкі пра сябе любімага – «Ўсё будзе добра ў надыходзячым годзе, ўсё будзе ня горш чым у гэтым, ды па іншаму і немагчыма – сапраўды, бо ў маёй хаце калядоўшчыкі!».

На твары гаспадара зьяўляцца ўсьмешка, якая ўжо сама сабой пашыраецца і мігрue на суседні дарослы твар, потым зьмешваецца з дзіцячай цікавасьцю да барадатага Дзеда з кіем, пераходзячы ў захапленьне ад зычлівай, спрытнай Казы, якая зьбіраецца альбо "закалоць рагамі", альбо "зваліць з ног". І ўсе адчуваньні - дарослыя, дзіцячыя зьліваюцца з песнямі, гульнямі, як у калейдаскопе, і ў хуткім часе ператвараюцца ў цяплыню, якая з кожнай хвілінай нарастае і мацнее, а потым вялікай хваляй захлынае ўсіх прысутных, а зьнікаючы пакідае асалоду. Пад сьпеў: – «Будзь ваша здароў, як рыжак бароў! Май торбу грошай, жыві ў роскашы!» мы развіталіся. Шчаслівая сямья сядае вячэраць, і яшчэ некаторы час за сталом будуць абмяркоўваць сьвяточны адвячорак. А ня меньш шчаслівыя за іх, мы – калядоўшчыкі, не спыняючы сьпевы, рухаемся наперад, да наступнай хаты і ізноў адтрымліваем хвалі цяплыні.

Мне здаецца, што хвалі ішлі ад Зоркі, ад яе чырвоных праменьчыкаў. На вуліцах горада, у аўтобусах мы бачылі зацікаўленыя вочы людзей, якія віталі нас, а замест адказу чакалі ад нас добрай усьмешкі, прыемных жаданьняў на надыходзячы год і звон грошай ў нашым мяху ўспрымаўся, як добрая прыкмета.

Кожны год мы – Іркуцкае таварыства Беларускай культуры імя Я. Чэрскага (ІТБК) 7 студзеня ладзім Калядную вечарыну для ўсіх нашых сяброў і прыхільнікаў, куды заўсёды прыходзяць да нас калядоўшчыкі, сьпяваюцца калядныя песьні, водзяцца карагоды ды ладзяцца скокі, а яшчэ ў нашай сустрэчы ёсьць звычай – госьць з Бацькаўшчыны. І 2012 год не выключэньне, ўсё дакладна выканалася!

7 студзеня ўжо родная для нас, утульная заля Іркуцкай абласной філармоніі сустракала беларусаў Прыбайкальля. На сьвяце было шмат дзяцей ад 3-х да 14-ці гадоў, гэта ІТБК-ашныя дзеці! ІТБК існуе 15 год! Вось вам і пераемнасьць пакаленьняў!

Вечар пачаўся з вітальных словаў Алега Рудакова, чалавека які, ўласна кажучы, і ажыцьцяўляе гэты звычай – зьбіраць беларусаў Прыбайкальля на Каляды!

Алег, як старшыня ІТБК, караценька акрэсьліў асноўныя падзеі нашага Таварыства ў 2011 годзе. Ён таксама прэзентаваў першыя кружэлкі нашых іркуцкіх гуртоў: гурта «Крывічы» – альбом "Вяцярок вее" і гурта «Ленушка» – альбом "Цячэ рэчанька". Потым Алег



запрасіў на сцэну госьця з Беларусі – Зьміцера Вайцюшкевіча, кампазытара, сьпевака, музыку і шчырага беларуса.

Зьміцер праспяваў для нас свае песьні на словы беларускіх паэтаў У. Караткевіча, У. Някляева, Р. Барадуліна, Г. Бураўкіна, А. Камоцкага. Ад апошняга перадаў нам прывітаньне (Алесь Камоцкі быў у нас на Каляды ў 2010г.). Зьміцер распавядаў пра кожны выкананы твор, гледачам гэта вельмі спадабалася, таму што гэта быў не звычайны канцэрт – гэта была сустрэча суродзічаў, дзе менавіта Зьміцер выступаў ў якасьці абагульняючага чалавека, які прынёс да нас весткі з Бацькаўшчыны, так бы мовіць роднае беларускае паветра. Не засталіся без увагі і дзеці, адмыслова для іх былі некаторыя расповяды і, безумоўна, песьні. Увогуле, дзеці мяне здзівілі сваёй зацікаўленасьцю, уважліва слухалі сур'ёзныя рэчы, напрыклад, твор «Дарога».

Час канцэрта прабег хутка .

Наступнымі былі Калядоўшчыкі. Сябры падстаўлялі свае бокі пад рогі Казы, адчынялі кішэні ды торбачкі, каб тая туды глянула. Споўнілі Калядны карагод на шчасьлівы год, ахвяравалі Механошу і грошы, і ласункі, каб будучы год быў шчодры. Але больш за ўсё ў гэтым годзе спадабалася гледачам танец Ваўка ды Казы ў выкананьні калядоўшчыкаў. Усе з задавальненем і захапленьнем пляскалі ў далоні. Цуд на Каляды – сяброўства гэтых двух жывёлаў! Асабліва гэты нумар спадабаўся дзеткам, але некаторыя і дарослыя зьбілі далоні, нават пашкадавалі, што такое магчыма ўбачыць толькі раз ў год!

Але, наша вечарына працягвалася. Нас чакала сяброўская бяседа, дзе людзі віталіся, знаёміліся, а галоўнае зьявілася магчымасьць паразмаўляць са Зьміцерам Вайцюшкевічам. А яшчэ былі любімыя беларускія скокі.

Вось такімі атрымаліся нашыя сёлетнія Каляды. З нецярпеньнем будзем чакаць Сьвята ў наступным годзе.

*Алена Сіпакова*
*Іркуцк*



## ЗША ўвялі новыя санкцыі супраць уладаў Беларусі



Прэзыдэнт ЗША Барак Абама падпісаў новы закон - "Акт аб дэмакратыі і правох чалавека 2011 году ў дачыненьні да Беларусі" (Belarus Democracy and Human Rights Act of 2011). Раней, у сярэдзіне сьнежня законапраект быў ухвалены Сэнатам ЗША, а 21 сьнежня яго ўхваліў Кангрэс.

Новы закон прадугледжвае ўзмацненьне санкцыяў супроць беларускага рэжыму. У ім пашыраецца сьпіс беларускіх чыноўнікаў і прадстаўнікоў сілавых структураў, на якіх накладаюцца візавыя абмежаваньні і фінансавыя санкцыі. Закон таксама прадугледжвае заклік да Міжнароднай фэдэрацыі хакею адмовіцца ад правядзеньня ў Беларусі чэмпіянату сьвету па хакеі 2014 году.

Акт аб дэмакратыі і правах чалавека 2011 году ўзмацьняе і пашырае Акт аб дэмакратыі ў Беларусі 2004 году і ўдакладняе акт аб дэмакратыі 2006-га.

*5 студзеня 2012*

## Перанесьці Чэмпіянат сьвету па хакеі 2014 году!



Грамадзянская кампанія Free Belarus Now накіравала зварот да нацыянальных федэрацый па хакеі, якія маюць удзельнічаць у Чэмпіянаце сьвету па хакеі 2014 году.

Чэмпіянат заплянаваны ў Беларусі, але ў сувязі з парушэньнямі правоў чалавека ў краіне дэмакратычныя актывісты просяць краіны-удзельніцы перанесьці чэмпіянат ў іншую дзяржаву. Ліст падпісаны актывістамі, палітыкамі і дзеячамі мастацтва.

Міжнародная федэрацыя хакею правядзе сустрэчу ў Гэльсінкі ў траўні 2012 году. Прадстаўнік гэтай арганізацыі Шымон Шэмберг паведаміў Грамадзянскай кампания Free Belarus Now, што ўдзельнікі будуць мець магчымасьць на гэтай нарадзе абмеркаваць правільнасьць выбару Беларусі для правядзеньня Чэмпіянату.

Галоўная управа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня падтрымлівае ініцыятыву грамадзкіх актывістаў распачаць шырокі пратэст супроць правядзеньня Чэмпіяната ў Беларусі, пакуль не будуць вызваленыя палітычныя вязьні.

Мы заклікаем іншыя беларускія арганізацыі прыняць удзел у гэтай важнай справе і накіраваць свае лісты пратэсту ў Міжнародную федэрацыю хакею да правядзеньня згаданай вышэй нарады ў Гэльсінках.

*Галоўная управа БАЗА*

## Беларусы Амерыкі выступаюць у падтрымку Сяргея Каваленкі



Беларусы Нью-Ёрка правялі адмысловы сход 18 студзеня ў грамадзкай залі Катэдральнага сабору сьв. Кірылы Тураўскага. Падчас сходу выступіў з прамовай Зянон Пазьняк. Ён заклікаў прысутных падтрымаць беларускіх палітвязьняў, у прыватнасці аказаць падтрымку сям'і віцебскага актывіста Сяргея Каваленкі, які трымае галадоўку ў СІЗА.

"Мы павінны ўсімі нашымі сіламі, як мы можам, падтрымаць іх маральна, духоўна, калі магчыма, матэрыяльна. Немагчыма, каб сям'я Каваленкі проста загінула з голаду, не можа такое быць", -- адзначыў Зянон Пазьняк.

"Мой такі зварот, што гэтую справу, і Каваленкі, і Аўтуховіча, і другіх, якія сядзяць, мы павінны ў скрайнім выпадку хоць лісты напісаць, а думаю, што трэба сабраць сродкі, далучыцца хаця б да тых еўрапейцаў-беларусаў, якія пачалі гэтыя сродкі збіраць, бо гэта ёсць сам факт салідарнасці, сам факт супрацiўленьня", -- заклікаў Зянон Пазьняк.

# Канец беларускамоўнага гета?



*З нагоды абуральнай падзеі, што нядаўна адбылася ў Беларусі - скасаваньня беларускага аддзелу ў Віцебскай абласной бібліятэцы, падаем рэакцыю вядомага грамадзка-палітычнага дзеяча і журналіста Радыё Свабода з Прагі Сяргея Навумчыка, які вырас ў Віцебску і для якога гэта найбольш балюча.*

Прагаласаваўшы ў 1994 годзе за Лукашэнку, Беларусы выявілі сваю ўнікальнасьць, зьяўляючыся адзіным у сьвеце народам, які падтрымаў чалавека, чый галоўны лёзунг быў — ліквідацыя іх краіны. Я ня ведаю ніякага іншага падобнага прыкладу ў гісторыі. Былі выпадкі падману, калі палітык, прыйшоўшы да ўлады, пачынаў дзейнічаць у інтарэсах іншай дзяржавы, безьліч выпадкаў, калі памылкі палітыкаў прыводзілі да анэксіі, але каб чалавек адкрыта заяўляў, што дасягненьне незалежнасьці краіны — гэта злачынства, і што трэба ізноў быць калёніяй у імпэрыі, а людзі за гэта галасавалі — такое ў гісторыі чалавецтва ўпершыню.

Цяпер беларусы маўчаць, калі зьнішчаюць іх мову (ня ўсе, канешне, але -- пераважная большасьць). Вось гэта ўжо ня дзівіць, тут няма ўнікальнасьці, такое здаралася, і не аднойчы. І амаль заўсёды ўсьлед за зьнікненьнем мовы зьнікаў і народ. Прычым вельмі часта зьнікаў і фізычна — напрыклад, з голаду.

Беларусы маўчаць, калі зьнішчаюць іх мову ...

Ці ня кожны дзень прыносіць зьвесткі, што недзе ліквідуецца апошняя беларуская кляса, недзе міліцыя схапіла чалавека, пачуўшы беларускую гаворку, недзе судзьдзя адмовілася весьці працэс над актывістам апазыцыі на беларускай — дзяржаўнай! — мове. Скасаваньне беларускага аддзелу ў Віцебскай абласной бібліятэцы і скарачэньне набору на беларускамоўныя спэцыяльнасьці па ўсёй краіне — дзьве падзеі, якія адлюстроўваюць тэндэнцыю.

«Уяўляеце дзе-небудзь у Нямеччыне аддзел нямецкай літаратуры, альбо ў Польшчы — аддзел польскай, гэта абсурд! — заявіў дырэктар Віцебскай абласной бібліятэкі ў інтэрвію „Салідарнасьці“. — Такая аптымізацыя, гэта нармальна. Атрымліваецца, што ў Беларусі ў бібліятэцы існуе аддзел беларускай літаратуры, нібыта яна замежная! Дзе такое бачылі?»

Мае рацыю спадар Сёмкін — ня будзе ў Кракаўскай бібліятэцы аддзелу польскай літаратуры, ці ў Манчэстэрскай бібліятэцы — аддзелу англамоўнай, у Бардо — аддзелу франкамоўнай літаратуры. Але, прэзыдэнт Польшчы ніколі не дазволіць сабе заявіць, што на польскай мове нельга стварыць нічога вартага. У Вялікабрытаніі тэле- і радыёвяшчаньне вядучых дзяржаўных і прыватных кампаніяў вядзецца на ангельскай мове. У Францыі дзейнічае даволі жорсткі моўны закон, які абараняе французкую мову астранамічнымі штрафамі (і, напрыклад, уладальнік крамы ў Парыжы можа павесіць на фасадзе шыльду па-ангельску ці па-нямецку толькі заплаціўшы за дазвол прыстойныя грошы). Мала таго. Для Бэрліну, Варшавы, Парыжу прапаганда нямецкай, польскай ці францускай мовы ў іншых краінах зьяўляецца важным складнікам зьнешнепалітычнай дзейнасьці — і таму дзяржаўны бюджэт фінансуе культурныя цэнтры ў замежных сталіцах. Тое самае, між іншым, тычыцца і Масквы — моўная экспансія ідзе наперадзе газавых «прапаноў, ад якіх нельга адмовіцца».

Калі б у Беларусі была моўнай сытуацыя хаця б такая, як у Літве — дзе выдаецца тысячы назваў гістарычнай, дакумэнтальнай, дзіцячай, навуковай, тэхнічнай літаратуры па-літоўску, дзе ўся заходнеэўрапейская (і расейская) клясыка перакладзеная на літоўскую мову — не было б пытаньня. Але, пытаньне ёсьць, бо на кніжным рынку Беларусі беларускамоўныя выданьні займаюць вельмі маленькі сэгмэнт — і паводле асартымэнту, і паводле накладаў. І ліквідаваць такі аддзел — значыць, па-просту растварыць беларускамоўныя кнігі ў акіяне расейскамоўнай літаратуры. І зрабіць цяжкадаступнымі для чытача.

***Заканчэньне на 5-й бачыне***

# Канец беларускамоўнага гета?

*Заканчэньне з 4-й бачыны*

Канешне, у ліквідацыі беларускага аддзелу можна знайсьці і «пабочныя» прычыны — у тым ліку і мэту зьнішчыць, можа быць, адзінае ў Віцебску месца, дзе людзі непраўладных меркаваньняў маглі б сабрацца пад дахам. З прыходам некалькі гадоў таму новага загадчыка аддзелу тут спыніліся сустрэчы зь менскімі і мясцовымі літаратарамі, але людзі хаця б маглі спаткацца. Раней, пры старой загадчыцы, тут з задавальненьнем прымалі (і, што важна, уносілі ў каталёг) выдадзеныя ў беларускім замежжы кнігі, якія нельга атрымаць ні па якіх афіцыйных каналах. Калі летась, ужо пры новым загадчыку, я прапанаваў перадаць новыя выданьні, мне сказалі, што іх ня прымуць. А вось цяпер, калі ліквідавалі аддзел, абвешчана, што некаторыя кнігі «сьпішуць» — няцяжка здагадацца, якія менавіта.

Прынятым у студзені 1990-га Вярхоўным Саветам 11-га скліканьня Закон аб мовах прадугледжваў выпраўленьне той гістарычнай несправядлівасьці, якая паставіла мову на мяжу выміраньня. І хаця Васіль Быкаў крытыкаваў яго за палавінчатасьць і занадта доўгія тэрміны ўводу ў дзеяньне — калі б закон выконваўся хаця б так, як было вызначана, — сёньня ў Беларусі была б зусім іншая моўная сытуацыя. Праўда, з адной умовай: калі б ў 1994 годзе да ўлады не прыйшлі сілы, якія (я ў гэтым перакананы) галоўнай мэтай сваёй паставілі ліквідацыю Беларусі як незалежнай дзяржавы.

У працэсе ж ліквідацыі дзяржаўнасьці зьнішчэньне мовы займае прыярытэтнае месца. Бо калі нацыя пазбавілася мовы, яна аднакачасна пазбаўляецца і самапавагі. Яна перастае быць нацыяй, а тое, у што яна ператворыцца, прагаласуе на рэфэрэндуме за ліквідацыю дзяржавы — навошта тая дзяржава, калі безь яе прасьцей атрымаць каўбасу і рубель?

І менавіта гэтым, мяркую, трэба тлумачыць цяперашні стан беларускай мовы.

Дзеля справядлівасьці трэба адзначыць, што не Лукашэнка пачаў: яшчэ ў 1993 годзе Вольга Абрамава разам з паплечнікамі з «Движения за демократические реформы» выступіла з ініцыятывай рэфэрэндуму аб дзяржаўнасьці расейскай мовы, ці, як казалася, «роўнасьці» расейскай і беларускай мовы (пагадзіцеся, вельмі падобна на жаданьне кіраўніка віцебскай бібліятэкі «ураўняць» беларускую і рускую кнігі). Іншыя «інтэлектуалы» (некаторыя зь іх потым увайшлі ў каманду Лукашэнкі) наракалі на нібыта «дыскрымінацыю» за няведаньне беларускай мовы. Насамрэч, ніхто і ніколі так і ня здолеў прывесьці ніводнага прыкладу, калі б у гады нацыянальнага Адраджэньня (канец 1980 — пачатак 1990 гг.) кагосьці ня ўзялі на працу ці звольнілі з працы з-за няведаньня беларускай мовы.

Затое цяпер ня тое што звальненьні — затрыманьні міліцыяй і спэцслужбамі людзей на вуліцах за адну толькі беларускую гаворку зрабіліся ня выпадкамі, а рутыннай практыкай.

І, між іншым, я ня чуў пратэстаў з гэтай нагоды ад тых, хто ў пачатку 90-ых выступаў за моўную «роўнасьць».

Яшчэ ніколі на памяці майго пакаленьня (тых, каму 40-50; а магчыма, і пакаленьня нашых бацькоў, якім 70-80) беларуская мова не знаходзілася ў такіх ня тое што неспрыяльных — а вынішчальных умовах.

Пакаленьне, якое нарадзілася пры Лукашэнку, ужо ня ведае значэньня беларускіх словаў. Ужо можна жыць у Беларусі гадамі, не пачуўшы нідзе беларускай мовы. Спачатку мову заганялі ў гета (не беларускамоўная ўсеагульная сыстэма адукацыі, а — асобныя беларускамоўныя клясы, ці нават толькі беларускамоўныя групы, не беларускамоўны эфір на тэлебачаньні, а - трохxвілінны сюжэт, і гэтак далей).

Якія б эмоцыі ні выклікала слова «гета» — але ў рэальнасьці беларуская мова за гады кіраваньня Лукашэнкі была мэтанакіравана і пасьлядоўна загнаная ў гета.

Цяпер зьнішчаюцца ўжо і гета — і, магчыма, мы бачым апошні акт нацыянальнай трагедыі.

*Сяргей Навумчык*
*01.02.2012*
*Паводле Радыё Свабода*

# Горкая радасьць

19 сьнежня 2010… Здаецца, звычайная дата, але, для нас, беларусаў, гэта дзень нашай Перамогі. Гісторыя дала нам шанец і мы яго скарысталі з гонарам.

Год таму перад сьветлымі Сьвятамі Нараджэньня Хрыстовага і Новага году людзі, поўныя надзеі і веры ў новае жыцьцё, выйшлі на Плошчу за сваю праўду, за свабоду, за гонар сваёй Бацькаўшчыны. Яны былі рознымі – студэнты, пенсіянеры, рабочыя, інтэлігенцыя. На жаль, я не была разам з маімі суродзічамі там у гэтыя незабыўныя дні.

Гэтыя людзі былі па-сапраўднаму мужнымі і сьмелымі, яны баранілі сваю зямлю ад дыктатрскай напасьці, ад беззаконьня і бясправўя. Мабыць, не ўсё атрымалася так, як марылася. Але, тое, што адбылося - гэта велізарны крок наперад. Памыляюцца тыя, які кажуць: “Што яны зрабілі? Пайшлі на Плошчу, каб перамагчы рэжым, а на прэзыдэнцкім троне ўсё па-ранейшаму ён – Лукашэнка”. Мы перамаглі той зімою. Магчыма, што мы не будзем у бліжэйшы час мець такога шансу. Людзі прыціснутыя новым законам “ Аб масавых мерапрыемствах”, які істотна робіць больш жорсткімі ўмовы і правілы правядзеньня апазыцыйных акцый і дае неабмежаваныя правы лукашэнкаўскім спецслужбам і міліцыянтам.

Увечары 19 сьнежня ўжо 2011 году праглядала з нагоды гадавіны тых падзеяў відэазапісы ў Інтэрнэце і ў маёй душы нараджалася пачуцьцё радасьці. На Плошчы свабодна гучалі словы “Жыве Беларусь!”. Людзі адчувалі сябе вольна, свабодна. Плошча ўвасабляла сабой краіну, у якой яны хацелі б і марылі жыць. У мяне на вачах навярнуліся сьлёзы, але ўжо не радасьці, а горычы. У турмах усё яшчэ зьняволены лепшыя сыны Беларусі. Яны не змаглі ізноў быць на Калядныя сьвяты дома са сваімі роднымі і сябрамі. А колькі людзей з Плошчы было зьбіта, пакалечана, перанесла маральныя і фізічныя катаваньні.

Я даслала віншавальныя лісты са Сьвятамі палітвязьням, бо па сабе ведаю, як цяжка быць у сьвяточныя дні ў адзіноце, без сваіх матуль, жонак, дзяцей.

Я веру, што надыдзе дзень Страшнага суда над дыктатарскім рэжымам у Беларусі і наша сьветлая мара пра вольную, дэмакратычную, незалежную Бацькаўшчыну збудзецца!

*Натальля Ганчарук*
*Філадэльфія*

## Мілінкевіч: найлепшы ўдзел у выбарах для беларускай апазыцыі – актыўны іх байкот



Байкот парляменцкіх выбараў – самы эфектыўны сродак, які можа прымяніць беларуская апазыцыя, каб быць пачутаю сваім народам. Такое стаўленьне выказаў Аляксандр Мілінкевіч адносна сёлетняй выбарчай кампаніі. Ён падкрэсьліў, што сапраўдных парляменцкіх выбараў у Беларусі восеньню 2012 году не будзе, адбудзецца проста новае прызначэньне дэпутатаў зьверху. Актыўны байкот гэтай фальшывай выбарчай кампаніі зьяўляецца аптымальнай тактыкаю для апазыцыйных партый.

31 студзеня «Кааліцыя шасьці» апазыцыйных арганізацыяў ня здолела падпісаць плян сумесных дзеяньняў на будучых парлямэнцкіх выбарах. Пагадненьне не было падпісанае, бо два з шасьці суб’ектаў адмовіліся зрабіць гэта.

## У назіральнай радзе Белтрансгазу не засталося ніводнага прадстаўніка Беларусі

Са складу назіральнай рады выведзеныя прадстаўнікі беларускага боку. Цяпер назіральная рада Белтрансгазу цалкам складаецца з прадстаўнікоў Газпрому.

3 красавіка 2010 году, калі Газпром стаў уласьнікам 50% акцый Белтрансгазу, у склад назіральнай рады ўваходзілі 4 прадстаўнікі беларускага боку. Намесьнікам старшыні рады быў першы віцэ-прэм’ер ураду Беларусі Уладзімер Сямашка. Да красавіка 2010 году ён ачольваў раду Белтрансгазу.

25 лістапада 2011 года ўрад Беларусі і Газпром падпісалі пагадненьне, згодна зь якім расейская кампанія набывала дзяржпакет акцыяў (50%) Белтрансгазу за 2,5 млрд даляраў ЗША,

*Паводле Радыё Свабода*
*01.02.2012*

# Мастацтва супраць дыктатуры




***27 студзеня ў адной з галерэяў у Нью-Ёрку на Мангэтане адкрылася выстава, у якой прадстаўлены творы сучасных беларускіх мастакоў.***

Выстава мае выразную тэматычную назву - Sounds of silence: Art against dictatorship, у перакладзе - "Гукі маўчання: Мастацтва супраць дыктатуры". Сярод мастакоў пераважае творчая моладзь – Марына Напрушкіна з Франкфурта з пректам "Антыпрапаганда", Лена Сулкоўская, Сяргей Шабохін, Яўген Шатко, Алесь Пушкін, Аляксандр Камароў, Алег Юшко і арт-група FAU.

Галоўны арганізатар і куратар выставы Вольга Капенкіна - мастацтвазнаўца, выкладчыца Нью-Ёркскага універсытэта, родам з Беларусі.

Непасрэдны ўдзел у адкрыцьці выставы прыняў толькі адзін з мастакоў – Сяргей Шабохін з Менску, які распавядаў зацікаўленым наведвальнікам выставы пра сучасны стан беларускага мастацтва, пра палітычны прэсінг на свабоду творчасьці.

На адкрыцьцё выставы прыйшло даволі шмат зацікаўленых беларускай тэмаю амэрыканцаў і, вядома, амэрыканскіх беларусаў. Цікавасьць да беларускіх праблемаў абудзілі ў Нью-Ёрку яшчэ раней артысты Беларускага вольнага тэатру, чые спектаклі на актуальныя палітычныя тэмы выклікалі актыўную рэакцыю крытыкаў і гледачоў. І гэтая выстава сталася працягам рэалізацыі плённай ідэі, якая сьцьвярджае, што змагацца з дыктатарскім рэжымам можна не толькі палітычнымі сродкамі, але і мастацкімі вобразамі, алегорыямі, плякатнай прапагандаю, пэрфомансам. Дарэчы, найбольшую цікавасьць гледачоў выклікалі менавіта пэрфомансы Алеся Пушкіна, відэазапісы якіх дэманстраваліся на экране.

Цікавай падалася мастацкая задума з фота і манекенамі, апранутымі ў простае ільняное адзеньне – нацыянальны стыль Беларусі. Але, ільняныя касьцюмы без вышыванак, карункаў, без усялякіх аздобаў ужо сымбалізуюць сабою як бы іншы стыль – турэмныя робы для палітвязьняў.

У працяг выставы 29 студзеня ў памяшканьні Austrian Cultural Forum на Мангэтане прайшла дыскусія пра сучаснае становішча ў Беларусі. Арганізатарам выступіў Польскі інстытут культуры (Polish Cultural Institute) у Нью-Ёрку. Вёў дыскусію Марэк Бартэлік – гісторык мастацтва, крытык. Са зьмястоўным рэфэратам выступіла Нелі Бекус – госьця з Варшавы, філёзаф, выкладчыца Варшаўскага універсытэту. Сп. Бекус добра абазнаная ў беларускай сытуацыі, бо сама яна родам з Беларусі і аўтарка кнігі "Strruggle over Identity the official and alternative Belarusiannest".

З боку амэрыканскіх беларусаў рэфэрат мела Тацьцяна Кулакевіч, яна распавяла пра палітычную і эканамічную сытуацыю ў Беларусі ў параўнаньні з іншымі постсавецкімі краінамі. У дыскусіі ўзялі ўдзел як амэрыканцы так і беларусы з Нью-Ёрку. Таня Красоўская – старшыня Бруклінскага аддзелу БАЗА запратэставала супроць ужываньня з боку некаторых прамоўцаў тэрміну "беларашэн", падкрэсліўшы, што мы беларусы, а не расейцы. Сярод прысутных гасьцей асаблівую цікавасьць да сытуацыі ў Беларусі выявіў філіпінец, як потым я высьветліла ў размове з ім, ён некалькі гадоў таму быў у нашай краіне і цяпер яго цікавіць ўсё, што тычыцца Беларусі, таму ён і прыйшоў на выставу і на дыскусію. Дыскусія атрымалася даволі ажыўленай. Сп. Станкевіч на завяршэньне імпрэзы выказаў падзяку ад амэрыканскіх беларусаў куратарцы выставы Вользе Капенкінай і Польскаму інстытуту культуры за дапамогу ў папулярызацыі беларускіх праблемаў і за падтрымку змаганьня апазыцыйных сілаў супроць дыктатуры.

*Беларуская выстава ў Нью-Ёрку будзе працаваць да 10 сакавіка па адрасу: Manhattan, 323 W 39th Street, 2nd Floor*

*Ганна Сурмач*




# Весткі з Вільні: справаздачна-выбарчы сход Таварыства беларускай культуры

У суботу 28 студзеня ў Таварыстве беларускай культуры ў Літве адбыўся справаздачна-выбарчы сход, пад час якога дзейная рада склала свае паўнамоцтвы і адбыліся выбары новага кіраўніцтва.

Справаздачна-выбарчаму сходу папярэднічала традыцыйнае мерапрыемства, пад час якога ўзгадалі найбольш выбітных віленскіх дзеячоў на беларускай ніве, юбілейныя даты якіх прыпалі на студзень.

У студзені споўнілася 120 гадоў з дня нараджэння выдатнага беларускага дзеяча на Віленшчыне ксяндза Адама Станкевіча, большая частка яго сьвятарскага і грамадзкага служэння прайшла менавіта тут, у Вільні. Яшчэ і сёньня, калі прадстаўнікі шматлікіх нацыянальнасцяў размаўляюць пра беларусаў, узгадваюць імя гэтага найвялікшага патрыёта свяёй Бацькаўшчыны, які па сабе пакінуў самыя сьветлыя ўспаміны. Адам Станкевіч быў каталіцкім сьвятаром, які нёс Божае Слова па-беларуску. І гэтаму прысьвяціў усё сваё жыццё. Ён зрабіў вялікую грамадзка-асьветніцкую працу на Віленшчыне, каб абудзіць беларускі народ і дапамагчы яму адчуць сябе нацыяй, якая мае сваю слаўную гісторыю, культуру, літаратуру, традыцыю. Кс. Адам Станкевіч з'яўляецца аўтарам 19 кніжак і больш чым 2000 артыкулаў.

Другая асоба, якой было прысьвечана паведамленне ў часе імпрэзы, гэта віленскі біскуп Юры Матулевіч. У студзені спаўняецца 85 гадоў з часу яго адыходу да вечнасці. Нягледзячы на тое, што ён не быў беларусам, за час свайго служэння на біскупскім пасадзе ў Вільні надзвычай шмат сіл і намаганняў прысьвяціў абароне беларусаў у каталіцкім касьцёле і іх правах на ўжываньне сваёй роднай мовы ў сьвятыні.. З-за чаго вельмі часта траплялў у няміласьць як да польскага каталіцкага духавенства на Віленшчыне (яно тады тут складала большасць), так да польскіх уладаў (за часы, калі Вільня знаходзілася ў руках палякаў). Галоўнай яго заслугай для Беларусі і беларусаў было заснаваньне беларускага кляштара айцоў Марыянаў у Друі і жаночага манаскага ордэна Сясцёр служак Езуса ў эўхарыстыі, задача якіх, па задуме айца Матулевіча, заключалася ў працы з беларускім вясковым насельніцтвам. І сёння менавіта гэтыя ордэны ў Беларусі з'яўляюцца самымі беларускамоўнымі. Варта адзначыць, што з Друйскага кляштара айцоў Марыянаў выйшла значная частка беларускіх дзеячоў: Язэп Германовіч, Чэслаў Сіповіч, Тамаш Падзява і інш.

У студзені адзначылі 120-годдзе з дня нараджэння выбітнага сына Віленшчыны, аўтара першай беларускай граматыкі Браніслава Тарашкевіча. Ён быў адным з найбольш актыўных беларускіх грамадзкіх дзеячоў у Вільні ў першай чвэрці XX ст.

У другой частцы імпрэзы адбыўся справаздачна-выбарчы сход, пад час якога дзейная рада ТБК склала свае паўнамоцтвы і быў абраны новы склад рады. Рада ТБК і на далей будзе стаяць на пазіцыях пабудовы дэмакратычный, незалежнай, эўрапейскай і беларускай Беларусі пад несьмяротнымі сымбалямі - бел-чырвона-белым сцягам і старажытным гербам Пагоня. Старшынёю ТБК на 2012-2013 год адзінагалосна ізноў абраны Хведар Нюнька.

*Алесь Адамковіч, Вільня*

# BELARUS ART

## Прадстаўляем новы дыск Данчыка



Нядаўна ў Беларусі выйшаў новы дыск Данчыка «Калядныя песьні».

«Хацеў бы прысьвяціць гэты збор песьняў сапраўднай закулісная сіле ня толькі гэтага выданьня, але і фактычна ўсё маёй кар’еры — маёй маці Юлі Андрусышын, якая вучыла мяне песьні і натхняла іх сьпяваць. Каб не яна, наўрад ці зьявіўся на сьвет ня толькі гэты альбом, але і ўсе астатнія», — кажа Данчык.

Дыск выйшаў з ініцыятывы Вітаўта Мартыненкі ды Зьмітра Марчука. Запісы былі зробленыя падчас апошняга прыезду Данчыка ў Беларусь у 1996-м годзе і дагэтуль былі даступныя аматарам толькі на касэтах.

Музычны крытык Вітаўт Мартыненка лічыць выданьне новага дыска Данчыка адметнай зьявай: “ Раней выйшлі пяць альбомоў Данчыка «Беларусачка», 1978; «Я ад вас далёка», 1985; «Мы адной табе належым», 1989; «Ровесники», 1991; «Мы яшчэ сустрэнемся», 1992. А пра шосты дыск насамрэч ня ведаў нават Данчык, бо запісвала яго з падачы Зьмітра Марчука (старшыні фан-клюбу «Данчык-forever») адна мюнхэнская студыя зь менскага канцэрту артыста ў вялікай залі Белдзяржфілярмоніі ў 1996 годзе”. У новы дыск увайшлі таксама відэазапісы, зробленыя ў нью-ёрскай кватэры Данчыка. Данчык ня толькі сам тлумачыць на тым канцэрце прыналежнасьць кожнай песьні да тэмы сьвята, але і выконвае сапраўдную клясыку жанру: фальклёрныя «Учора зь вячора», «Сьвецяць зорачкі», «Саўка ды Грышка»), Беларускую калядную клясыку сьпявак узбагачае сьпевамі іншых народаў у беларускіх перакладах «Ціхая ноч» (зь нямецкай), «Сьвятая ноч» (з француская).

Але каляднай тэмай зьмест дыску не абмяжоўваецца. Па-беларуску гучаць знакамітыя колісь гіты «Milisse mou» Наны Мускуры, «Les Feuilles Mortes» Эдыт Піяф ды іншыя. А некаторыя сусьветныя песенныя шэдэўры гучаць і без перакладу: «The Boxer» амэрыканскага дуэта 60-х Simon/Garfunkel, «Yesterday» ад вялікіх брытанскіх бітлоў Lennon/McCartney, габрэйскі танец «Hava Nagila!», гішпанскі «Gracias a la vida» ад Віялеты Парра. Данчык выконвае іх бездакорна, захоўваючы пры тым сваю адметную манэру й шарм, лічыць Вітаўт Мартыненка.

Варта дадаць таксама, што над перакладамі сусьветных шлягераў для Данчыка працавалі Сяржук Сокалаў-Воюш, Мацьвей Смаршчок, Натальля Арсеньнева. Гучаць песьні на вершы Максіма Багдановіча («Не кувай ты, шэрая зязюля» — mega-hit), Уладзімера Дубоўкі («О Беларусь, мая шыпшына!»),напісаныя кампазытарамі-эмігрантамі Міколам Куліковічам, Міколам Равенскім.

Ёсьць у альбоме і турыстычны гіт «Стары дом» наваполацкага барда Алега Паўлёнка, «Крыніцы» ягонага земляка Сокалава-Воюша, ананімна распаўсюджаны тут за савецкім часам нацыянальны вайсковы гімн «У гушчарах», які напісаў М. Куліковіч на вершы Н. Арсеньневай.

Лічбавы рэмайстарынг канцэртных запісаў Зьмітра Новіка зрабіў Андрэй Плясанаў (студыя «P.L.A.N.»), а мантаж амэрыканскіх відэазапісаў належыць Андрэю Старавойтаву з студыі «Ravenlord». “І вось поўная дыскаґрафія Данчыка — усе шэсьць альбомаў, каля 100 песень, унікальныя інтэрвію, відэазапісы, дакумэнтальныя фільмы, рэдкія фоткі — даступны беларускім мэляманам, якія зьбяруць поўную калекцыю ягоных дыскаў ад «БМAgroup», кажа Вітаўт Мартыненка.

7 студзеня ў Менску ў сталічным Палацы культуры вэтэранаў (вул. Янкі Купалы, 21) адбылася вялікая музычная калядная прэзэнтацыя. Пад час імпрэзы адбылася і прэзэнтацыя новага дыску Данчыка.




## Каляндар памятных датаў на люты 2012 году

**1 лютага** – 85 гадоў таму, у 1927 годзе, нарадзілася Юзэфа Найдзюк (Брэчка), удзельніца нацыянальна-вызваленчага руху, сяброўка СБМ, дзеячка эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**2 лютага** – 110 гадоў таму, у 1902 годзе, нарадзіўся Станіслаў Грынкевіч, грамадзка-палітычны і культурны дзеяч, літаратар, адзін з лідэраў Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі

**2 лютага** – 80 гадоў таму, у1932 годзе, нарадзілася Людміла Махнюк, дзеячка эміграцыі ў ЗША

**7 лютага** – 120 гадоў таму, у 1892 годзе, нарадзіўся Антон Сокал-Кутылоўскі, вайсковы і грамадзкі дзеяч, адзін з кіраўнікоў Слуцкага паўстаньня

**10 лютага** – 130 гадоў таму, у 1882 годзе, нарадзіўся Францішак Умястоўскі, пісьменьнік, публіцыст – “нашанівец”

**11 лютага** – 205 гадоў таму, у1807 годзе, нарадзіўся Напалеон Орда, мастак, кампазітар, піяніст, удзельнік паўстаньня 1830-31 г.г.

**11 лютага** – 135 гадоў таму, у 1877 годзе, нарадзіўся Антон Неканда-Трэпка, грамадзка-палітычны дзеяч, педагог

**11 лютага** – 60 гадоў таму, у 1952 годзе, памёр Андрэй Цікота, рэлігійны і грамадзкі дзеяч, генерал Ордэна марыянаў

**12 лютага** – 70 гадоў таму, у1942 годзе памёр Антон Неканда-Трэпка, грамадзка-палітычны дзеяч, педагог

**14 лютага** – 75 гадоў таму, у 1937 годзе, нарадзіўся Міхась Стральцоў, пісьменьнік, крытык, перакладчык

**17 лютага** – 175 гадоў таму, у 1837 годзе, нарадзіўся Канстанцін Ельскі (з роду Ельскіх), падарожнік, географ, заоляг, геоляг

**21 лютага** – Міжнародны дзень роднай мовы

**22 лютага** – 150 гадоў таму, у 1862 годзе, памёр Вікенці Дмахоўскі, жывапісец, удзельнік паўстаньня 1830-31 г.г.

**23 лютага** – 105 гадоў таму, у1907 годзе, нарадзіўся Станіслаў Станкевіч, грамадзка-культурны дзеяч, літаратуразнавец, публіцыст, выдавец, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**24 лютага** – 110 гадоў таму, у 1902 годзе, нарадзіўся Янка Геніюш, грамадзкі дзеяч, доктар, муж Ларысы Геніюш

**24 лютага** – 90 гадоў таму, у 1922 годзе, памёр Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі), пісьменьнік, літаратуразнаўца, грамадзкі дзеяч

**24 лютага** – 40 гадоў таму, у 1972 годзе, памёр Аляксей Вініцкі, грамадзка-культурны дзеяч, гісторык, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

**26 лютага** – 80 гадоў таму, у 1932 годзе, выйшаў першы нумар газэты “Літаратура і мастацтва”

**28 лютага** – 70 гадоў таму, у 1942 годзе, памёр у блякадным Ленінградзе Канстанцін Пушкарэвіч, беларускі і расейскі славіст, літаратуразнавец, педагог

**29 лютага** – 140 гадоў таму, у 1872 годзе, нарадзіўся Вітольд Бялыніцкі-Біруля, мастак

Літаратурная старонка. Працяг каляднай тэмы

# На Каляды к сыну

## Зьмітрок БЯДУЛЯ



Хмаркі насіліся над лесам. Розныя па колеру і фасону яны часта ахаплялі вялікую частку неба і тварылі багатыя малюнкі к таемным казкам сталетняга лесу. Удзень былі яны светла-пурпурныя, а ўночы залаціліся месяцам.

Чаго-чаго ў іх не было! Цэлыя гарады з дзіўнымі замчышчамі, горы, выспы, азёры, агнёвыя звяры, працэсіі святых у белых вопратках, незлічоныя легіёны ваякаў на конях...

Унізе лес гаварыў свае адвечныя гутаркі... Часам ён маліўся ціха-ціха, і толькі нейкі гук, нібы вокліч далёкага звону, даносіўся з чорнай глыбіні лясной да-лі...Часам бываў ён немы, гэтак мёртва немы і спакойны, як бы прыслухоўваўся да нейкіх таемных падземных спеваў.

На хмаркі і на лес часта любіла пазіраць старая ўдава Тэкля, жонка нябожчыка Цыпрука, палясоўшчыка пана Шчубальскага. Жыла Тэкля адна ў старой хатцы, на пагорку ля лесу, хадзіла на падзённую, бокам-скокам, туды-сюды і неяк гадавалася. Пан не выгнаў яе з гэтай разваленай хаты, хаця пасля смерці Цыпрука наняў новага палясоўшчыка, але таму пабудаваў і новую хату.

Тэкля любіла хадзіць па суседзях - вельмі гутарлівая баба была, але і любіла сядзець адна на прызбе і думаць сваю думку. Яна любіла пазіраць на стары лес і на сівыя хмаркі доўга-доўга, і старыя вочы прыкрываў смутак: успаміны старадаўнія, як цені, лезлі ў яе душу, праляцеўшыя гады маляваліся ёй ясна, жыва, быццам перад вачамі бачыць яна ўсё... Надта шкадаваць пройдзены час няма чаго - помніць яшчэ і цяпер пабоі і лаянкі п'янага Цыпрука.

Затое адну пацеху мае яна, якая гоіць раны, адна надзея, - гэта ядыны сын яе, Лаўручок. Во хто сядзіць у яе грудзях, як верабей у цёплым гняздзе...

Любіла яна сядзець на прызбе, пазіраць старымі вачамі на цёмны лес, на адвечныя хмаркі.Усё жыццё яна была загнана ўсімі, і калі нават бывалі хвілі радасці, то вочы не пакідалі выразу вечнага смутку.

Думала яна аб сыне сваім, які жыве ў вялікім горадзе, думала і цешылася...Жыве ён сабе там панам, як людзі кажуць...Лаўручок яе, быўшы яшчэ хлопчыкам гадоў дзесяці, спадабаўся вельмі пану Шчубальскаму за прыгожы від і спрытны розум. Бяздзетны пан забраў яго к сабе, адзяваў па-панску і, падвучыўшы крыху, аддаў пасля ў горад вучыцца. У лістах да пана часамі ўспамінаў ён сваіх бацькоў. З радасці і ўцехі яны проста не ведалі, што рабіць... Жартачкі - гэткага ўдалага сына маюць! Першы раз як ён на Каляды прыехаў з гораду да пана, дык яго бацькі зараз жа прыляцелі на панскі двор і доўга адстойвалі ў кухні, пакуль сынок з'явіўся к ім. Шчасцю іх канца не было, як угледзелі яго ў чорных суконных вопратках з бліскучымі гузікамі, - якраз асэсар! Праўда, калі маці кінулася да яго абыймаць і цалаваць, дык ён засароміўся крыху і адсунуўся ўбок...- Апанеў! - казала потым маці, - і далікатным зрабіўся і гаворыць па-панску!.. «Эт! - гаварыў бацька, - думаеш што, ды і ён панам будзе!.. Глядзі, як ён ужо смяецца з нашай гутаркі ды з нас. Гэта мне не надта падабаецца...» Маці не звяртала ўвагі на гэта. Слепа радавалася, фанабэрылася перад суседзямі. Скора паны зусім выехалі адгэтуль. З таго часу яны ўжо болей не бачылі свайго Лаўручка...

Тым часам Лаўрук вучыўся далей, як скончыў гімназію, пан выправіў яго на адукацыю ва ўніверсітэт. Бацькам сваім ён ніколі нічога не пісаў, але пан,аддаўшы ў арэнду двор, усё ж такі сам прыязджаў штогод даведацца і расказваў ім, што Лаўрук вучыцца ў адвакаты. Цешылася маці: - Во будзе падмога на старасць! Цыпрук на гэта ёй часта гаварыў: - Эт, дурная ты авечка. Яго падмогу сарока хвастом замяце. Чакай ад яго пад старасць пацехі, як ад рабой сучкі яек! - Замаўчы ўжо! Стары, як малы! - А ты, брат, баба, зусім дурная авечка! Ці ты не бачыш, што твой Лаўручок зусім чужым зрабіўся для нас з таго часу, як папаў пад панскую апеку. Нешта не цешыць ён мяне...

Цыпрук памёр. Старая Тэкля засталася адна, і тады яшчэ болей запанавала ў душы яе цяга да сына. Гэта быў увесь яе скарб. Матчына сэрца адкрыла ўсе таемнікі свайго кахання. Заўсёды, калі была яна адна, думала аб сыне. Суседкам гаварыла, што сынок такі і гэткі, хваліла яго. Смачна ёй была сухая скарынка хлеба, а без хлеба таксама было добра... «Эт, - думала яна, - дык што ж там... абы толькі хацела, дык у Лаўручка свайго вунь як зажыла б!.. Абы толькі захацела!» - Эх, Тэкля, Тэкля! - гаварылі ёй часта суседкі, - паехала б да сына ў горад! Ці табе гэтак і век свой дажываць! Ты ж адна, як корч той на пасецы! - Не бяда! - адказвала яна, - абы толькі захацела! Мой Лаўручок гэткі багаты, як людзі кажуць, што бадай багацей за самога пана Шчубальскага! Абы толькі захацела!

Прайшло яшчэ пару гадоў. Зрабілася Тэкля сухой, нізенькай, згорбленай бабулькай, зморшчанай, як той грыб. - Вось дурная! - казалі людзі, - мае гэткага багатага сына, а сама бадзяецца невядома як і дзе!

Падышлі Каляды. Увесь абшар быў пакрыты снегам... Вёскі занесены гурбамі, быццам казачныя замчышчы... А лес зрабіўся сівым і паважным. - Апошнія Каляды: зусім ужо я слабенькая... Не хацелася ёй аднэй застацца ў пустцы каля лесу і пад выццё ваўкоў Куццю ладзіць. І давай, быццам гарачыя вуголлі, закрытыя попелам, выгартаць з сэрца наверх свае захаваныя жаданні, сваю глыбокую веру ў даражэнькага сына.. - Давай, - думае, - дабяруся ўжо да яго... бадай ці дацягну да вясны... Шмат дакучаць яму не буду, бо дзе яму там клапаціцца аба мне і шкада ж яго...

- Пайду да сына! - разнясла яна назаўтра па ўсёй ваколіцы, і гэтак намалола ім рознай гутаркі, што проста ўсіх суседзяў зайздрасць прабрала: жартачкі, гэткага сына мае! Ён там у судах цэлы асэсар, паперы піша і ўвесь свет проста дагары нагамі круціць. Ускінула Тэкля хатулачку на плечы, пару лапцей на запас узяла, развіталася з бабамі і пусцілася ў дарогу. Да гораду было міль шэсць. Выбралася раніцай на снежнае поле. - Кажуць, ён там ажаніўся з багатай паненкай. Напэўна, унукі-жэўжыкі ёсць. На зморшчаным твары ззяла шчаслівая ўсмешка. Яна адвярнула таўстую хустку ад вачэй, каб разглядзець, ці шмат ужо дарогі прайшла. - Уга! і не думала. Ногі самі нясуць мяне, як бы трыццаць гадоў таму назад, і марозу не баюся! І яшчэ з большым імпэтам няслі яе старыя ногі да роднага сына на Каляды... І шчасце яе расло... Вось дзе жаданне сэрца яе споўніцца! Вось калі зажыве яна, як сыр у смятане! - Глупства, што часамі нябожчык Цыпрук гаварыў... Як гэта ён мяне не прыме? Я ж - яго матка!.. Я ж яго гадавала і карміла... Ён жа - уся пацеха мая.

Кончыўся дзень. Тэкля начавала ў незнаёмай вёсцы. Добрыя людзі накармілі яе і абагрэлі. Яна ўсім расказвала, што ідзе на Каляды да сына, і гэткім тонам, гэткай шчаслівай гутаркай, ажно сяляне з нейкай асобнай павагай пазіралі на яе ды пачалі прасіць, каб яна там у сына за іх заступы прасіла ў судах... Ранюсенька яна зноў кранулася ў дарогу. Скрыпеў снег пад нагамі. Белыя абшары палёў драмалі пад супакоем нямой цішы... Рэдка-рэдка калі дзе на хвоі закаркае варона ды, падымаючыся ўверх, страсяне з галін вялікія ком'і снегу...Рэдка-рэдка калі фурманка пакажацца з лесу. Сярмяжнік занукае на кабылку на розныя лады, упрэцца ў аглаблю, натужыцца - і ні з месца. Воз з бярвеннем цяжкі. Рэдка-рэдка калі званочак зазвоніць, і панскія санкі віхрам панясуцца па нямым белым гасцінцу...

Тэкля ідзе ды ідзе...Млеюць старыя ногі... Атопкі, як калоды, зрабіліся цяжкія і цвёрдыя. Нічога - горад блізка. Ужо здалёк відаць вежы цэркваў і касцёлаў, якія золатам у небе адліваюцца...

*Заканчэньне на 9-й бачыне.*

# На Каляды к сыну

*Заканчэньне з 8-й бачыны.*

Вось і муры featured рознафасонныя... Вось і гоман горада даходзіць да яе вушэй... Скора ўжо спраўдзіцца яе апошняе жаданне... У старых вачах бліснуў радасны аганёк...

- Нічога, у сына адпачну. Старыя косці выпрастаю!.. Вось пачаліся цёмныя вуліцы шумнага, як бы ашалелага, горада...

Тут ужо Тэкля збілася з толку. Не ведала, куды павярнуцца, у каго дапытвацца. Людзі спяшаюць, піргаюць. Рамізнік ледзь не пераехаў яе. Страшна... Адважылася яна папытацца аднаго, другога, дзе тут яе сын жыве? Ён тут «аблакатам»... Лаўруком завецца. Хто пажартаваў ды паглядзеў на яе, як на дурную... Хто адвярнуўся ды пайшоў сваёй дарогай, а хто з жалю торкаў ёй у руку капеечку... Гэткім чынам нехта давёў яе да гарадавога. Той пачаў распытвацца і, ніякага толку не дабіўшыся, павёў яе ва ўчастак. Там яна пераначавала, галодная і змерзлая. Назаўтра, даведаўшыся, хто гэта яе сын, адвялі да яго.

Стукалася, стукалася яна ў дзверы, пакуль нехта адчыніў, высунуўся напалову, паглядзеў на яе і крыкнуў: - Ідзі, ідзі! канца няма жабракам гэтым! - Пусцеце... Я да сына свайго іду, да Лаўрука! - Да Лаўрука?! да сына?! да Лаўрэнція Кіпрыянавіча?! - Ага! ага! Я маці яго. Той змерыў яе з ног да галавы, пакуль яна расказвала, што яна з вёскі да Лаўрука на Каляды прыйшла, і з усмешкай пусціў у кухню. Тут сабраліся слугі і давай шушукацца і распытвацца.

Тым часам адчыніліся дзверы з другой стараны ды ўвайшоў малады пан у чорным сурдуце... - Лаўручок мой! Сынок! - як непрытомная, кінулася да яго Тэкля... - Роднен...Ён раптам пачырванеў, паглядзеў на слуг ды хрыпла крыкнуў: - Чаму вы пускаеце ў пакой розных жабрачак шалёных?! - Ідзі! ідзі! - звярнуўся ён да яе глуха, адрывіста, - ідзі, старушка! Я цябе... не знаю...- А сынок мой, а Лаўручок ты мой! Маткі сваёй не пазнаеш?! Гэта ж... Ён бразнуў дзвярамі і пайшоў у пакоі...

Той самы лёкай выправадзіў яе за дзверы...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Як зышла з маляваных сходаў, як апынулася на шумным тратуары каля варот, яна сама не памятала... Ачухалася толькі тады, калі той самы лёкай яшчэ раз выйшаў да яе і торкнуў ёй у скурчаныя ад холаду пальцы нейкія бумажкі...- Ад пана!..

Яна нават не чула, як з яе акалелых пальцаў выпаў гасцінец роднага, доўгажаданага сына. Некалькі трохрублёвых прыліплі да макраватага тратуара...

# Новая кніжка Лявона Юрэвіча




У Менску ў серыі “Бібліятэка Бацькаўшчыны” выйшла кніга беларускага эміграцыйнага дасьледчыка Лявона Юрэвіча “Шматгалосы эпісталярыум: гісторыя людзей і ідэй на эміграцыі ў ліставанні” ( Кнігазбор, 2012. — 660 с.)

Гэта збор матэрыялаў, прысьвечаных эпісталярнай спадчыне паваеннай эміграцыі. У кнізе зьмешчаныя як публікаваныя раней у розных перыёдыках тэксты, так і зусім новыя матэрыялы, якія прадстаўляюць знаходкі з архіваў беларускай эміграцыі, пераважна маладаступныя метрапольным дасьледчыкам.

На думку рэдактара кнігі, кандыдата гістарычных навук Натальлі Гардзіенкі, галоўная каштоўнасць выдання ў тым, што гэта, бадай што, першая спроба рознабакова разглядзець эміграцыйныя эпісталярыі, як крыніцу зьвестак па гісторыі, літаратуры, штодзённасьці. Сур’ёзных працаў, прысьвечаных гэтай праблематыцы, да гэтай пары не было.

“Іншая каштоўнасць кнігі палягае ў публікацыі вялікай колькасці арыгінальных лістоў, раней невядомых ні гісторыкам, ні літаратуразнаўцам, – гаворыць Наталля Гардзіенка. – Тут прадстаўленая шырокая геаграфія карэспандэнтаў, якая ахоплівае ці не ўсе беларускія асяродкі паваеннай эміграцыі, закранаюцца разнастайныя праблемы, вядомыя і невядомыя ў метраполіі”. Шматлікія лісты беларусаў з розных краінаў, знойдзеныя, апрацаваныя і зьмешчаныя ў кнізе, дазваляюць прадставіць не толькі адметнасьці інтэлектуальнага жыцьця беларускай інтэлігенцыі на Захадзе, але і паказаць штодзённасьць шараговых эмігрантаў.

Найбольшую цікавасць, напэўна, уяўляюць тэксты, што друкуюцца ўпершыню. Да прыкладу, ліставаньне Кастуся Акулы ў сувязі з падрыхтоўкай і выданьнем двух найбуйнейшых ягоных твораў – рамана “Змагарныя дарогі” і трылёгіі “Гараватка”. На думку Наталлі Гардзіенкі, праз гэтыя эпісталярыі “можна крыху па-іншаму паглядзець і на асобу Кастуся Акулы і ягоных карэспандэнтаў, і на літаратурную “кухню”, і на асаблівасьці міжасабовых дачыненьняў на эміграцыі”.

Безумоўна, цікавым для многіх будзе разьдзел кнігі “Трэба жыць, як набяжыць”: праўдзівая біяграфія амерыканскіх гадоў Натальлі Арсеньневай”, дзе зьмешчаны абраныя лісты Наталлі Арсеньневай сваёй сяброўцы Яніне Каханоўскай. Лісты дасланы з Рочэстэра, куды Арсеньнева з мужам была вымушана пераехаць з Нью-Ёрка ў 1967 г. “У гэты перыяд адзінай сувязьзю паэткі з беларускім жыцьцём сталася ліставаньне”, – адзначае Лявон Юрэвіч. Вось як характарызуе дасьледчык гэтую перапіску: “Лісты, дасланыя з Рочэстара, выразна асабістыя, побытавыя; напісаныя да блізкага сябра, яны не маюць ніякіх табуяваных тэмаў: сьмерць родных, хваробы, сямейныя складанасьці, фінансавыя, настрой — усё знайшло месца ў гэтым ліставаньні і ўсё вельмі важна для разуменьня Натальлі Арсеньневай як чалавека, для разуменьня ейнага працяглага – 30-ці гадовага – жыцця ў невялічкім правінцыйным гарадку”.

Сярод іншых герояў кнігі – Юрка Віцьбіч, Антон Адамовіч, Кастусь Акула, Уладзімір Дудзіцкі, Уладзімір Клішэвіч, Янка Чарапук-Змагар і шмат іншых цікавых асобаў з інтэлектуальнай прасторы беларускай эміграцыі.

У кнізе Лявона Юрэвіча знойдзецца шмат новай інфармацыі да біяграфіяў розных эміграцыйных, і не толькі эміграцыйных дзеячаў. Такім чынам, “Шматгалосы эпісталярыум”, бадай, нельга назваць кнігай выключна эміграцыйнай тэматыкі, хутчэй гэтае выданьне добра сьведчыць пра цесную ўзаемасувязь эміграцыйнай і метрапольнай інтэлектуальнай прасторы.

*Паводле Інфармацыйныйнага цэнтру МГА “Бацькаўшчына”*

# Сьвет вачыма беларусаў

*Сяброўка Бруклінскага аддзелу БАЗА ў Нью-Ёрку сп. Іна Фанская падала нам думку адчыніць новую рубрыку ў газэце – "Сьвет вачыма беларусаў". Шмат хто з новых беларускіх эмігрантаў любіць падарожнічаць і пазнаваць сьвет, які быў амаль зачынены для іх пад час жыцьця на Бацькаўшчыне.*

*Запрашаем нашых чытачоў дзяліцца сваімі думкамі і ўражаньнямі ад сваіх падарожжаў па Амэрыцы і ў іншыя краіны. Дасылайце свае зацемкі на электронны або паштовы адрас газэты.*

*Першую публікацыю для новай рубрыкі якраз і даслала нам сп. Іна Фанская.*

## Коста Рыка – пагляд праз беларускія рэаліі

Прасядзеўшы большую палову свайго жыцьця за "жалезнаю заслонаю" у былым Савецкім Саюзе, па прыездзе ў Амэрыку я вырашыла паглядзець сьвет. Кожны год я наведваю якую-небудзь новую для мяне краіну. Вось і ў нядаўна адыйшоўшым 2011 годзе я таксама падарожнічала. У турыстычным агенстве, куды я заўсёды зьвяртаюся, мне параілі гэтым разам наведаць Коста Рыку і я пагадзілася. Што гэта за краіна? Назва яе з гішпанскай мовы перакладаецца як "Прыгожы бераг", менавіта такім пабачылі яго ўпершыню гішпанскія мараплаўцы.

Заўсёды перад тым, як наведаць тую ці іншую краіну, я купляю кніжку пра яе, каб загадзя ведаць гісторыю і асаблівасьці народу, які там жыве. Адкрыўшы першую старонку пра Коста Рыку, я адразу моцна зацікавілася. Людзі там называюць сябе Tikos. Тлумачыцца гэта тым, што замест папулярнага гішпанскага слова momentito ("хвілінку"), яны кажуць momentico. Як пабачыла потым, яны вельмі прыемныя, вясёлыя, шчырыя і адкрытыя для кантактаў. Разам з сябрамі па вандроўцы і ветлівымі костарыканцамі я адзначыла там свой дзень народзінаў.

У першы дзень новага году наша турыстычная група раненька ехала паглядзець вядомы ў тых мясьцінах вулкан. По дарозе мы сустрэлі прадаўца марожанага. Ён быў апрануты ў бялюсенькія кашулю і шорты і ўвесь зіхацеў ад усьмешкі і зыркага ранішняга сонца. У захапленьні я ўскрыкнула на ўвесь аўтобус : "Паглядзіце, які прыгожы чалавек!". Такія сьветлыя ўражаньні ў мяне засталіся і ад далейшых сустрэчаў з людзьмі ў гэтай краіне.

Коста Рыка – гэта дэмакратычная рэспубліка. Урад узначальвае выбарны прэзыдэнт і два віцэ-прэзыдэнты, у склад яго уваходзяць 17 сяброў. Таксама ёсьць Ассамблея з 57 дэпутатаў, якія абіраюцца ўсенародна. У выбарах удзельнічаюць ўсе людзі ва ўзросьце ад 18 да 70 гадоў. За выбарамі назірае спецыяльны выбарчы трыбунал, прызначаны Вярхоўным судом.

У 1949 годзе Коста Рыка дэкляравала сябе як нейтральная краіна. Таму яна не мае ні войска, ні флёту. У 1987 годзе прэзыдэнт Оскар Арыас атрымаў Нобелеўскую прэмію за пасярэдніцтва ва ўсталяваньні міру ў Цэнтральнай Амэрыцы. Костарыканцы ганарацца нейтралітэтам сваёй краіны і стабільнай дэмакратыяй. Там канстытуцыя не перарабляецца пад кожнага новага прэзыдэнта.

У Коста Рыка я купіла кашулю ў падарунак майму ўнуку ў Менску. Але, думаю, што насіць там гэтую кашулю будзе небясьпечна, бо там напісана: "No army, no war, no guns! Costa Rica pacific Nation since 1948" ("Не войску, не вайне, не зброі! Коста Рыка мірная нацыя ад 1948 году"). Гэта зусім процілеглае таму, што дэкляруецца сёньняшнімі беарускімі ўладамі, якія лічаць ворагамі амаль увесь сьвет.

У апошнія дзесяцігоддзі ў Коста Рыка назіраецца сапраўдны бум турызму. Краіна вельмі прыгожая і ветлівая. Welcome to Costa Rica!

*Іна Фанская, Нью-Ёрк*



Пад час падарожжаў сп. Фанская заўсёды бярэ з сабою бел-чырвона –белы сьцяжок. Беларускі сьцяжок над возерам у Коста Рыка.

## Беларуская тэнісістка Вікторыя Азаранка – першая ракетка сьвету



Беларуская тэнісістка Вікторыя Азаранка ўпершыню ў сваёй спартовай кар'еры выйграла турнір «Вялікага шлему» ў аўстралійскім Мэльбурне — першае з чатырох самых значных тэнісных спаборніцтваў году.

Да гэтага часу яшчэ нікому з беларускіх майстроў ракеткі не ўдавалася нават блізка падысьці да такога ўзроўню. У фінале 22-гадовая Вікторыя не пакінула ніякіх шанцаў іншай нараджэнцы Беларусі Марыі Шарапавай, якая пасьля пераезду з бацькамі з Гомельшчыны выступае за Расею. Шарапава выйгравала «Аўстраліен Оўпэн» у 2008 годзе.

Вікторыя ня вельмі ўпэўнена пачала матч, прайграўшы два геймы запар, аднак хутка настроілася на барацьбу і ўзяла хаду сустрэчы пад свой кантроль. Пасьля перамогі ў першым сэце з лікам 6:3 другі сэт Азаранка выйграла ўсухую — 6:0.

Перамога на «Аўстраліен Оўпэн» ўзьнесла Вікторыю на верхні радок рэйтынгу тэнісістак-прафэсіяналак. Дагэтуль найлепшым яе дасягненьнем было трэйцяе месца. Да такой вяршыні ніводзін беларускі тэнісіст яшчэ не дабіраўся. За сваю перамогу ў Мэльбурне Вікторыя Азаранка атрымае больш за 2 мільёны даляраў прызавых.

*28.01.2012*
*Паводле Радыё Свабода*

## Аўстралійскі тэніс

Аўстралійскія газэты пісалі, што ў гэтым годзе турнір аўстралійскага тэнісу, які адбыўся ў Мэльбурне і быў пад назовам "Аўстральян Опэн", прайшоў пад уражаньнем вялікай сэнсацыі. Асабліва, калі дзьве беларускай нацыянальнасьці дзяў-чыны задэманстравалі ў гульні тэніса высокую клясу знаёмасьці гэтага спорту. Гэта былі Марыя Шарапава, якое бацькі з-пад Гомелю і якія па чарнобыльскай аварыі атамнай электрастанцыі пераехалі на Сібір, дзе і нарадзілася Марыя. Дзяўчына гэта хоць цяпер жыве ў Амэрыцы ў стане Арызона, чамусь-то рэпрэзэнтавала Расею.

Другою спартоўкаю ў гэтай клясе спорту была Вікторыя Азаранка. Дзяўчына гэтая зрабіла вялікі фурор, яна задэманстравала высокую клясу гульні ў гэтым так папулярным у Аўстраліі спорце, якім ёсьць тут тэніс. Тутэйшыя газэты пісалі, што Азаранка разграміла Шарапаву 6:0 і 6:3, гэтым самым яна апынулася на першым месцы.

Марыі Шарапавай – 24 гады, а Вікторыі Азаранка – 22 гады і яна жыве ў Монта-Карлё.Пры кожным удары ракеткаю абе-дзьве спартоўкі выкрыквалі: "Ага! Ага!"

Вікторыя Азаранка рэпрэзэнтавала Беларусь з лукашэнкаўскім сьцягам, а Шарапава – Расею з расейскім сьцягам.

Наша беларуская група прыняла рашэньне не пратэставаць супроць лукашэнкаўскага сьцягу таму, што гэта і так нічога не дапаможа. Аднак, тут было заўважана, што ва ўсіх газэтах пісалі і на тэлебачаньні ўвесь час паўтаралася слова "Беларусь". Вось гэта і была найбольшая рэкляма – прапаганда распаўсюджваньня па сьвеце ведамасьці таго, што існуе, жыве і становіцца слаўнай нам так блізкая краіна – нашая Беларусь.

Беларусь жыве і што раз мацней пульсуе яе жыццёвы арганізм, дзякуючы моцным і ўпартым людзям гэтай краіны.

Усякія выскокі і ўсякія злачынствы лукашэнкаўскага рэжыму не адбяруць нам права на жыццё, жыць ды быць на нашай плянэце, мець сваю культуру і сваю мову.

Нашыя беларускія пракрокі сваёю крывёю і ахвяраю свайго жыцьця далі нам запавет:
"Мой родны кут, як ты мне мілы, забыць цябе не маю сілы…"

*За Беларускі Цэнтральны Камітэт у Мэльбурне*
*Старшыня Янка Барысевіч*
*Заступнік а. Аляксандр Грыцук*
*Аўстралія*

# Нашыя страты

## Сьв. памяці Яўген Шатохін (25 лютага 1947 – 22 студзеня 2012)



Яўген Шатохін на адкрыцьці ягонай выставы ў Нью-Ёрку, 2008.

У Пінску памёр вядомы беларускі мастак Яўген Шатохін.

Галоўнай тэмаю творчасьці мастака было адлюстраваньне прыгажосьці роднай зямлі, гісторыі свайго краю. Першыя свае выставы ён арганізаваў у 1972 годзе. Яўген Шатохін стварыў некалькі мастацкіх цыкляў і сэрый, прысьвечаных вядомым асобам у гісторыі і сучаснасьці Беларусі, краявідам бацькоўскай зямлі.

Мастак быў вядомы і ў замежжы, ягоныя выставы адбыліся ў Польшчы, Расеі, Злучаных Штатах Амэрыкі, у Францыі, дзе у 2003 годзе ён атрымаў званне ганаровага грамадзяніна французскага горада Альберт. У 2008 годзе выстава Яўгена Шатохіна прайшла ў Нью-Ёрку ў грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага. Беларускія эмігранты ў ЗША змаглі асабіста пазнаёміцца з мастаком і ягоным адметным, поўным глыбокага духоўнага сэнсу і любові да сваёй Радзімы мастацтвам. Шмат у каго з іх засталіся на памятку набытыя пасьля выставы абразы, якія ўпрыгожваюць іхнае жытло.

За шматгадовую плённую працу ў галіне беларускай культуры ў 2004 годзе Шатохін атрымаў медаль Беларускага саюза мастакоў "За заслугі ў выяўленчым мастацтве". Ягоныя творы назаўжды застануцца ў скарбонцы беларускай нацыянальнай культуры.

Яўген Шатохін быў выбітнаю асобаю і ў грамадзка-палітычным жыцьці Беларусі. Ён стаў адным зь першых арганізатараў вызвольнага ўздыму напрыканцы 1980-х гадоў, калі па ўсёй Беларусі арганізоўваліся структуры Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне». Менавіта Яўген Шатохін арганізаваў народны супраціў на Піншчыне супраць жнівеньскага путча 1991 году і ўзьняў над родным горадам бел-чырвона-белы сьцяг. На працягу больш чым дваццаці гадоў ён кіраваў фронтаўскім рухам на Піншчыне, быў арганізатарам палітычных акцый і беларускага асьветніцтва. З 1990 па 1999 год быў дэпутатам Пінскага гарсавета. З'яўляўся сябрам Сойму Кансерватыўна-хрысціянскай партыі — Беларускі Народны Фронт "Адраджэньне".

У лютым мастаку мела б споўніцца 65 гадоў, на гэты дзень яго сябры і паплечнікі рыхтавалі юбілейныя творчыя вечары. Цяпер гэта будуць ужо вечарыны памяці аб страчаным творцы.

Пасьля выставы ў Нью-Ёрку у 2008 годзе, дзе мы пазнаёміліся, нас зьвязвалі з Яўгенам добрыя сяброўскія адносіны. Мы шмат часу правялі разам, я знаёміла яго з Нью-Ёркам. Наведалі знакаміты Metropolitan Museum, часам ён прыпыняўся каля таго ці іншага абраза, стаяў, глядзеў, а потым сьцішаны ішоў далей. Ён сказаў, што марыць зрабіць малюнак помніка Касьцюшку ў Вашынгтоне і мы паехалі туды. Ён працаваў да самай цемнаты, але, здаецца, зрабіў усё, што хацеў і задаволены усьміхаўся.

Пад час маёй апошняй паездкі ў Беларусь у канцы лістапада мінулага году мы сустрэліся ў Менску. Цяпер ужо Яўген знаёміў мяне з культурным жыцьцём у Менску – з мастацкімі галерэямі, з кнігарняй "Ў", з беларускімі незалежнымі выданьнямі. Не адну гадзіну мы правялі ў кавярні, размаўляючы пра ягоную летнюю вандроўку на яхце, пра ягоныя пляны ізноў пабываць у Францыі, дзе ён так плённа працаваў пад час сваіх мінулых вандровак. Вядома ж, шмат гаварылі пра сучасную сітуацыю ў краіне. Разьвіталіся мы каля метро "Станцыя імя Якуба Коласа", ён сьпяшаўся. І так здарылася, што разьвіталіся назаўсёды. Як балюча і цяжка!

*Тацьцяна Красоўская*
*старшыня Бруклінскага аддзелу БАЗА*
*Нью-Ёрк*

---

## СЬВ. ПАМ. ВАНКАРЭМ НІКІФАРОВІЧ (15 лістапада 1934 – 2 кастрычніка 2011)



Ванкарэм Вяляр'янавіч Нікіфаровіч нарадзіўся 15 лістапада 1934 г. у Менску. Яго бацька быў настаўнікам, а потым дырэктарам 42-й школы; маці Анна Рыгораўна была хімікам. У 1957 г. Ванкарэм скончыў філялягічны факультэт Беларускага дзяржаўнага унівэрсытэту й пачаў працаваць рэдактарам у выдавецтве "Беларусь". Ён рэдагаваў творы такіх таленавітых паэтаў як Уладзімер Дубоўка, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін ды інш., а таксама такіх пісьменьнікаў як Уладзімір Караткевіч і Васіль Быкаў. Усе гэтыя людзі сталі ягонымі сябрамі на ўсё жыцьцё. Ён пісаў артыкулы аб іх творчасьці й аб творчасьці шмат іншых аўтараў, прадмовы да зборнікаў іх твораў і г. д. Ванкарэм заўсёды сачыў за творчасьцю беларускіх пісьменьнікаў і, знаходзячыся ў Чыкага, падтрымліваў зь імі сувязь. Напрыклад, Васіль Быкаў прыслаў яму свае апавяданьні з Прагі, дзе ён жыў апошнім часам, для перакладу на расейскую мову.

З 1967 па 1985 год Ванкарэм працаваў намесьнікам загадчыка літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачаньня, а з 1985 па 1993 год (да ад'езду ў эміграцыю) – загадчыкам літаратурнай часткі Беларускага акадэмічнага тэатру імя Я. Купалы і (адначасова) Рускага драматычнага тэатру імя М. Горкага.

Ванкарэм выдатна ведаў ня толькі расейскую й беларускую літаратуры, але й баўгарскую мову, перакладаў зь яе шмат на беларускую – прозу й драматургію. Баўгарыя ўзнагародзіла яго ордэнам Кірылы й Мяфодзія і, дарэчы кажучы, калі мы былі ў Баўгарыі, мне там сказалі: "Ваш муж гаворыць па-баўгарску лепш за нашае міністэрства культуры." Спадзяюся, гэта быў жарт.

У Чыкага амаль зь першага дня Ванкарэм супрацоўнічаў з газэтай "Реклама": пісаў рэцэнзіі на кнігі, гастрольныя спэктаклі й спэктаклі ў амэрыканскіх чыкагскіх тэатрах. Вельмі любіў і добра ведаў выяўленчае мастацтва і напісаў шмат рэцэнзій на выставы мастакоў з былога СССР.

І ўсё гэта нягледзячы на цяжкую хваробу, зь якой ён змагаўся апошнія шэсьць гадоў жыцьця. А як ён перажываў за Радзіму й за людзей, што вымушаны цярпець дыктатарскі рэжым Лукашэнкі! Ён напісаў некалькі артыкулаў на гэтую тэму ў газэты "Реклама", "Панорама" (апошняя выдаецца ў Лёс Анджэлесе), "Беларус" ды іншыя. Пасьля так званых "выбараў" 19 сьнежня 2010 г. у Беларусі й арышту актывістаў апазыцыі Ванкарэм напісаў шмат лістоў да афіцыйных асобаў ЗША, у тым ліку да сэнатараў Рычарда Дурбіна й Марка Кірка, якія цёпла падзякавалі й абяцалі зьвярнуць увагу Сэната ЗША на парушэньне правоў чалавека ў Беларусі.

Ванкарэм быў чысты, чулы, сьціплы, высакародны чалавек. Сьветлая яму памяць.

*Зоя Нікіфаровіч*

СПАЧУВАНЬНЕ

Управа Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў ЗША выказвае глыбокае спачуваньне жонцы й сям'і сьветлай памяці Ванкарэма Нікіфаровіча.

Нябожчык ад 1993 году жыў у Чыкага, быў сябрам БІНіМ. Літаратуравед і журналіст, аўтар шматлікіх публікацыяў, у тым ліку беларусаведных, плённы перакладчык, шчодры дараднік маладых літаратараў, Нікіфаровіч пакінуў па сабе багатую спадчыну, у якой увекавечана ягонае імя.

# Новая публікацыя




BELARUSIAN INSTITUTE OF ARTS AND SCIENCES, Inc.

БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА
330 Park Street
Haworth, NJ 07641
Tel.: 201 244-0788
e-mail: Janzap42@gmail.com
Люты 2012

Паважанае спадарства!

Др. Ян Запруднік напісаў тэкст новай кнігі "Беларускія фэстывалі й выстаўкі ў НьюДжэрзі (1948-2012 гг.)" з падзагалоўкам "Палітычная інфармацыя мовай мастацтва". Кніга дзьвюхмоўная: першая частка па-ангельску, другая па-беларуску. Абедзьве часткі ілюстраваныя. У кнізе будзе каля 150 здымкаў, бальшыня каляровыя. Аўтар апісвае пасяленьне паваенных беларусаў у Нью Джэрзі, хоры, канцэрты, фэстывалі, выстаўкі, кантакты з палітыкамі, інфармацыйную дзейнасьць з мэтай азнаямленьня амэрыканскага грамадзтва зь Беларусьсю й беларускай праблемай. Англамоўны тэкст кнігі й беларускамоўны апавядаюць пра тое самае, але яны не ідэнтычныя. У кнізе будзе паказьнік прозьвішчаў.

Дакладны кошт выданьня яшчэ не ўстаноўлены, але будзе не малы. Каб забясьпечыць добрую якасьць фотаздымкаў, давядзецца друкаваць на адпаведнай паперы. Трэба таксама выдаваць кнігу ў пераплёце, у цьвёрдай вокладцы. А гэта таксама - дадатковы кошт.

Цяпер сп. Нік Дутко й сп-ня Ірэна Дутко робяць макет кнігі. Мяркуецца, што неўзабаве ён будзе гатовы, і тады застанецца пытаньне друкарні ды аплаты коштаў выданьня. Трэба разьлічваць недзе на 15-20 тысячаў даляраў.

Такім чынам, запрашаем усіх былых удзельнікаў фэстываляў і выставак, а таксама ўсіх прыхільнікаў беларусаведнага друкаванага слова й далейшай інфармацыйнай дзейнасьці прысылаць ахвяраваньні або замовы на выданьне. Кошт паасобніка для папярэдніх падпісчыкаў – 75 даляраў. Пасьля выхаду кнігі з друку ён будзе вышэйшы.

Чэкі трэба выпісваць на BINiM і перасылаць з зазначэньнем: "На фэстывальную кнігу".

*Управа БІНіМ*



## Памерла Віслава Шымборска

У Кракаве ва ўзросьце 88 гадоў памерла паэтка Віслава Шымборска – ляўрэатка Нобэлеўскай прэміі ў літаратуры.

У 1996 годзе Нобэлеўскі камітэт надаў ёй прэмію з фармулёўкай «за яе творчасьць, якая іранічна-дасканала раскрывае гістарычную і біялягічную сувязь у фрагмэнтах чалавечай рэчаіснасьці».

Шымборска ў 1980-х далучылася да «Салідарнасьці» і працавала ў часопісе «Культура», які выдаваў у Парыжы Ежы Гедройць.

У Беларусі выйшлі два яе паэтычныя зборнікі ў перакладах Ніны Мацяш – «Сьвет, варты вяртаньня» (1991) і «Хваля» (2005).

*Паводле Радыё Свабода 01.02.2012*

## Віншаваньне

Віншуем Аляксандру Лістоўскую з нараджэньнем доўгачаканага ўнука. У яе дачкі , якая жыве ў Флярыдзе, нарадзіўся сын Антось. Жадаем бабулі, бацькам немаўляткі і ўсім родным з радасцю гадаваць маленькага Антося.

Сябры Бруклінскага адзелу БАЗА

## Вадохрышча ў Нью-Ёрку

19 студзеня Праваслаўная Царква адсьвяткавала Богаяўленьне, альбо Вадохрышча - адно з галоўных хрысціянскіх сьвятаў. Сьвятам Хрышчэньня сканчаюцца Калядныя сьвяты. Сьвята Богаяўленьня – успамін хросту Ісуса Хрыста ў рацэ Ярдан, дзе ахрысьціў Божага Сына Ян Прадвесьнік, якога называюць Янам Хрысьціцелем.

У Катэдральным саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку Сьвята пачалося ўвечары 18 студзеня, адбылася малебен і асьвячэньне вады. Тыя, хто працуе, мелі магчымасьць такім чынам далучыцца да Сьвята пасьля працы. Тыя вернікі, хто меў вольны час у чацьвер 19 студзеня прыйшлі на ўрачыстую літургію раніцаю, пасьля якой таксама адбылося асьвячэньне вады. Так што ўсе мелі магчымасьць выпіць сьвятую ваду непасрэдна ў царкве і ўзяць з сабою дахаты дзеля сваіх духоўных патрэбаў цягам году да наступнага Вадохрышча. Падзяка за добра наладжанае сьвяткаваньне належыцца Сьвятарству і Парафіяльнай радзе Сабору.

*Прыхажане Сабору*

## АБ'ЯВА

Чарговы сход Бруклінскага адзелу БАЗА адбудзецца 12 лютага 2012 г. а 12:30 па паўдні ў грамадзкай залі пры Саборы Св. Кірылы Тураўскага 401 Atlantic Ave.

## На выданьне "Беларуса" ахвяравалі:

| | |
|---|---|
| Леанід Шурак | $ 100 |
| Аляксей Маркевіч | $ 50 |
| Андрэй Агрэда | $100 |
| Янка Кацярыніч | $ 30 |
| Вітаўт Кіпель | $ 250 |
| Анатоль Лузенка | $ 40 |
| Мікола Прускі | $ 50 |
| Яўген Завістовіч | $ 50 |
| Таццьяна Каркоцкая | $ 50 |
| Галіна Руднік | $ 100 |
| Дзмітры Бубен | $ 50 |
| Сімон і Ніна Дудар | $ 60 |
| Згуртаваньне беларусаў у Вялікай Брытаніі | $ 500 |

**Вялікі дзякуй усім ахвярадаўцам!**

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*
**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
*Belarusan American Ass'n, Inc.*

**Склад Рэдакцыі:**
Ганна Сурмач – адказны рэдактар (surmacova@gmail.com)
Андрусь Падлескі - сябра рэдакцыі
Алена Высоцкая – адказная за кампутарную вёрстку
Таня Красоўская – скарбнік, арганізатар падпіскі (premiere718@yahoo.com)
Галіна Падлеская – рэдактарка дзіцячай старонкі galinapodles@hotmail.com
Валеры Дворнік - адказны за друк
Натальля Старавойтава - адказная за рассылку газэты

Артыкулы падпісаныя прозьвішчамі ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць погляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.

**Адрасы Рэдакцыі:**
Паштовы адрас:
*Hazeta Bielarus*
*166-34 Gothic Drive*
*Jamaica, NY 11432*
*USA*

Грашовыя чэкі выпісываць на імя : *BIELARUS newspaper* дасылаць скарбніку на паштовы адрас рэдакцыі.

**Электронны адрас (email):** bielarus@bazahq.org

*Адказнасьць за зьмест*